Жыве Беларусь!



# Родная ніва

Газета ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Заснавана ў красавіку 1918 года

2000
14
ЧЭРВЕНЯ
СЕРАДА
№ 46 (9533)

## КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД — НА ВЫШЫНІ

Работа Канстытуцыйнага суда Беларусі заслугоўвае высокай ацэнкі. Аб гэтым заявіў 5 чэрвеня Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка ў час сустрэчы з удзельнікамі міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Канстытуцыйнае судаводства". На думку кіраўніка дзяржавы, размовы аб тым, што беларускі Канстытуцыйны суд быццам бы адрозніваецца ад такіх інстытутаў іншых краін, надуманы. Прэзідэнт адзначыў, што акрамя сваёй асноўнай работы Канстытуцыйны суд праводзіць папярэднюю экспертызу законапраектаў. Акрамя таго, спецыялісты суда ўдзельнічаюць у распрацоўцы самых далікатных законапраектаў. У сувязі з гэтым Аляксандр Лукашэнка прывёў прыклад праекта Закона аб дзяржаўнай службе. Прэзідэнт паведаміў, што вельмі цяжкую функцыю падрыхтоўкі гэтага важнага дакумента ўзялі на сябе спецыялісты Канстытуцыйнага суда. Без іх мы б гэты законапраект не падрыхтавалі, — сказаў кіраўнік дзяржавы.

## Сёння ў нумары:

## "Каб кожная галіна выніковай была"



*У сённяшнім нумары газеты, шаноўныя чытачы, вы маеце магчымасць пазнаёміцца з дакладам старшыні раённага выканаўчага камітэта У.В.Канавалава на раённай нарадзе перадавікоў народнай гаспадаркі за мінулы год і сёлетнюю пасяўную кампанію, а таксама паглядзець фотарэпартаж нашага фотакарэспандэнта В.Асмалоўскага з гэтага мерапрыемства.*

*На прапануемым вашай увазе здымку вы бачыце момант уручэння кіраўніку раённага выканаўчага камітэта У.В.Канавалаву начальнікам упраўлення культуры аблвыканкама М.Р.Дарашковым Дыплома за занятае раёнам другое месца ў абласным спаборніцтве ў сферы сацыяльна-культурнага развіцця.*

*Цікава было паназіраць гледачам (другі здымак) за трохгадзіннай дзеяй узнагароджвання лепшых з лепшых працаўнікоў, а заадно паслухаць меладычныя песні ў выкананні таленавітых самадзейных артыстаў горада і сяла.*

**І.ЛАПО.**



## Санкт-Пецярбург і Беларусь наладжваюць супрацоўніцтва

Па ступені супрацоўніцтва з Беларуссю Санкт-Пецярбург павінен дагнаць Маскву. Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка 6 чэрвеня ў час сустрэчы з губернатарам — старшынёй урада Санкт-Пецярбурга Уладзімірам Якаўлевым. На думку беларускага лідэра, для больш цесных эканамічных, гуманітарных і палітычных кантактаў ёсць усе перадумовы. Актывізацыя супрацоўніцтва ў гэтых галінах абавязкова прынясе карысць людзям. Умацаванне, напрыклад, вытворчых сувязей дапаможа стварыць дадаткова тысячы рабочых месц як у Санкт-Пецярбургу, так і ў Мінску.

## Час для адпачынку — час для новых сустрэч

Пачалося доўгачаканае лета. Як і дзе адпачыць — пытанне не з самых лёгкіх. У раёне, напрыклад, працуюць 15 лагераў з дзённым знаходжаннем дзяцей. Тут здолеюць адпачыць 900 хлопчыкаў і дзяўчынак. Тры лагеры працы і адпачынку змогуць зацікавіць яшчэ каля сямідзесяці школьнікаў. Школьная лясніцтвы, а іх у раёне пяць, неведваюць 60 хлопчыкаў і дзяўчынак. На працягу летніх канікулаў у папулярным лагеры "Арляня", што размешчаны каля в. Звянчатка, адпачнуць 400 школьнікаў. Яшчэ 60 будуць адпачываць у турыстычным і палатачным лагерах на базе ўсё ж таго "Арляня".

Вядома ж, адпачынак павінен быць актыўным. Таму на базе навучальных устаноў таксама створаны вытворчыя брыгады, у якія ўвайшло 147 школьнікаў. Рабяты будуць займацца рамонтам мэблі, добраўпарадкаваннем тэрыторый і працай на вопытных участках.

375 хлопчыкаў і дзяўчынак увайшлі ў паляводчыя брыгады, каб дапамагаць родным гаспадаркам. Бо прыйдзе восень, і з пачаткам новага навучальнага года запрацуюць школьныя сталовыя. А каб харчаванне было больш танным, трэба папрацаваць улетку.

Значная колькасць хлопчыкаў і дзяўчынак паедзе за межы раёна, вобласці і нават краіны. Хтосьці да бабулі і дзядулі, хтосьці да сяброў з замежжа. Цікавага адпачынку табе, вучань! Набірайся сілы перад новым навучальным годам.

**М.ЛІНЁЎ.**

## Пасяджэнне Вышэйшага дзяржаўнага Савета адбудзецца ў Маскве

Чарговае пасяджэнне Вышэйшага дзяржаўнага Савета Саюзнай дзяржавы адбудзецца 27 чэрвеня ў Маскве. Гэта дата ўзгоднена ў час праведзенай нядаўняй сустрэчы прэм'ер-міністра Беларусі Уладзіміра Ярмошына з дзяржаўным сакратаром Саюзнай дзяржавы Паўлам Барадзіным. Асноўным пытаннем на пасяджэнні будзе зацвярджэнне праекта бюджэту Саюзнай дзяржавы на 2000 год, прынятага ў другім чытанні Парламенцкім сходам на праведзенай у Маскве сесіі.

*Ідзе летне-пашавы перыяд утрымання грамадскай жывёлы*

## Лета — час пудовых надояў

Да іх атрымання найбольш блізкія ў раёне жывёлаводы сельгастэхнікума, дзе надойваюць да 15 і больш кілаграмаў малака ў дзень. Следам ідуць майстры машыннага даення племзавода "Ціманава", якія маюць 13,9 кілаграмовы паказчык на кожную карову.

Больш дванаццаці кілаграмаў надойваюць даяркі ў дзень на птушкафабрыцы, у саўгасе "Мілаславічы". Каля гэтага — у калгасе "Галіцкі" і саўгасе "Макеевічы". Больш дзесяці кілаграмаў, а гэта значыць больш, чым у цэлым па раёну надойваюць у калгасах "Новае жыццё", "Герой працы", аграгандлёвым прадпрыемстве "Асмолавічы" і саўгасе "Малышкавічы".

Астатнім гаспадаркам трэба яшчэ падцягнуцца да ўзроўню перадавых гаспадарак. Так лічыць намеснік начальніка райсельгасхарчу па жывёлагадоўлі В.С.Штылёў.

І яшчэ. Сёлета працуюць лепш, чым летась, маючы прыбаўку малака да мінулагодняга адпаведна 700, 600, 400 і 200 грамаў у саўгасе "Малышкавічы", калгасе "Рабочы", на птушкафабрыцы і калгасе "Герой працы".

Працаўнікам ферм застаецца адно, лепш працаваць, каб летні перыяд утрымання грамадскіх статкаў стаў сапраўды шчодрым як на надоі, так і на прывагі.

**І.ЛАПО.**

# Каб кожная галіна выніковай была

**(З даклада старшыні раённага выканаўчага камітэта У. В. КАНАВАЛАВА на раённай нарадзе перадавікоў народнай гаспадаркі за мінулы год і сёлетнюю пасяўную)**

**ЛЮДЗІ ЎСЁ Ж ПРАЦАВАЛІ**

Нягледзячы на тое, што 1999 год для эканомікі нашага раёна быў вельмі цяжкім, не ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі атрыманы запланаваныя паказчыкі, але ўсё ж людзі працавалі, працавалі не менш, чым у папярэднія гады, таму хаця і з некаторым спазненнем раённы выканаўчы камітэт рашыў ва ўрачыстай абстаноўцы падвесці вынікі работы папярэдняга года і веснавой сяўбы.

Прамысловымі прадпрыемствамі раёна выткарана таварнай прадукцыі ў супастаўімых цэнах на 3,7 мільярда дэнамініраваных рублёў, што да ўзроўню 1998 года складае 95,2 працэнта.

Перавысілі ўзровень, дасягнуты ў папярэднім годзе, калектывы хлебазавода, завода металавырабаў, камбіната кааператыўнай прамысловасці райспажыўтаварыства, лікёра-гарэлачнага завода.

Не выйшлі на ўзровень 1998 года камбінат хлебапрадуктаў, ААТ "Клімавіцкі малочны завод", камбінат будаўнічых матэрыялаў, які па прычыне стратнасці сваёй прадукцыі спыніў яе выпуск са жніўня 1999 года. У цяперашні час значна палепшыў сваю работу камбінат хлебапрадуктаў і па выніках чатырох месяцаў у 1,3 раза перавысіў узровень 1999 года.

Па вытворчасці тавараў народнага спажывання ў цэлым па раёну ўзровень 1998 года не дасягнуты, аднак па некаторых групах тавараў маецца пэўны рост: больш выпушчана цэльнамалочнай прадукцыі на 520 тон, нятлустай — на 664, хлебабулачных вырабаў — на 285, кандытарскіх — на 24,4 тоны, напітку віннага — на 125 тыс. дал.

**АСВОЕНА 66 ВІДАЎ НОВЫХ ВЫРАБАЎ!**

Прамысловымі прадпрыемствамі раёна ў мінулым годзе праводзілася работа па асваенню новых відаў прадукцыі. Усяго за 1999 год асвоены выпуск 66 новых відаў вырабаў. У іх ліку 6 назваў гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў, 2 — віннага напітку, 32 — хлебабулачных вырабаў, 21 — кандытарскіх, 4 — малочнай прадукцыі (2 віды ражанкі, сыракваша і сыр клінковы). Заводам металавырабаў асвоена вытворчасць рассякацеляў для газавых пліт.

Прамысловым комплексам раёна атрымана прыбытку 920 мільёнаў рублёў. Са стратамі закончыў 1999 год толькі камбінат будаўнічых матэрыялаў. У цэлым па прамысловых прадпрыемствах рэнтабельнасць узрасла з 8 працэнтаў у 1998 годзе да 14 працэнтаў у 1999 годзе.

Стан плацёжнай дысцыпліны па-ранейшаму з'яўляецца праблемай у дзейнасці прадпрыемстваў і арганізацый. Таму трэба адзначыць, што кіраўнікам прамысловых прадпрыемстваў неабходна зрабіць самыя сур'ёзныя вывады з допушчаных пралікаў, накіраваць усе намаганні на выкананне планаў 2000 года, паляпшэнне фінансавага стану прадпрыемстваў і зразумець, што пагаршэння вытворчых паказчыкаў ніхто нам не даруе.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці і нявырашаныя праблемы, на кожным прадпрыемстве ёсць людзі, якія сваёй добрасумленнай працай дабіваюцца высокіх паказчыкаў. Гэта кандытар хлебазавода Валянціна Іосіфаўна Наўгародская, рабочая розліва-мыечнага ўчастка лікёра-гарэлачнага завода Вера Ігнатаўна Кажамякіна, прыёмшчык малака ААТ "Клімавіцкі малочны завод" Валянціна Фёдараўна Судзілоўская, апаратчык вытворчасці мукі камбіната хлебапрадуктаў Таццяна Міхайлаўна Баярава і многія іншыя.

**ЯК НАС АБСЛУГОЎВАЮЦЬ?**

У службе быта раёна ў прайшоўшым годзе адбыліся пэўныя зрухі да лепшага. За 1999 год камбінатам бытавога абслугоўвання аказана паслуг насельніцтву на суму 10 мільёнаў дэнамініраваных рублёў, што ў супастаўімых цэнах перавышае ўзровень 1998 года на 42,6 працэнта.

Разам з тым, становішча на прадпрыемстве застаецца складаным. З прычыны недахопу сродкаў марунымі тэмпамі вядзецца работа па адкрыцці новых комплексных прыёмных пунктаў на сяле, прывядзенню ў належны стан маючай сеткі падраздзяленняў бытавога абслугоўвання. Кіраўніцтву камбіната неабходна больш увагі ўдзяляць якасці аказваемых насельніцтву паслуг, расшырэнню іх відаў.

**КАБ БЫЎ ДАСТАТКОВЫМ АСАРТЫМЕНТ**

У 1999 годзе тавараабарот райспажыўтаварыства склаў 1,9 мільярда рублёў, або 100,2 працэнта да ўзроўню мінулага года ў супастаўімых цэнах. Нядрэнна працуюць і складаюць сур'ёзную канкурэнцыю райспажыўтаварыству магазіны камбіната хлебапрадуктаў, лікёра-гарэлачнага завода, хлебазавода, ААТ "Клімавіцкі малочны завод".

Аднак кіраўніцтву райспажыўтаварыства і іншых прадпрыемстваў і арганізацый неабходна ўзмацніць работу па забеспячэнню дастатковага асартыменту тавараў у магазінах, укараненню новых відаў паслуг і форм абслугоўвання.

Работа прадпрыемстваў гандлю цесна звязана з адным з важных фактараў — настроем людзей. Добра гэта разумеючы, добрасумленна працуюць ужо не адзін год у сістэме спажывецкай кааперацыі работнікі ўнітарных прадпрыемстваў: прадавец магазіна в. Галічы Валянціна Аркадзьеўна Жыгаева, кандытар камбіната грамадскага харчавання Валянціна Станіславаўна Мароз, повар камбіната грамадскага харчавання Надзея Міхайлаўна Саўрэй, прадавец аддзела "Трыкатаж" "Каапунівермага" Зінаіда Міхайлаўна Чэмісава, прадавец магазіна № 7 гарадскога каапгандлю Алена Уладзіміраўна Шаўрова.

**ГОД СКЛАДАНЫ, ДЫ ХЛЕБАРОБ СПРАВЕ АДДАНЫ**

Для хлебаробаў раёна мінулы год быў не менш складаным. З-за неспрыяльных умоў надвор'я летась частка пасеваў зерневых культур загінула. Сярэдняя ўраджайнасць зерневых і зернебабовых склала 8,3 цэнтнера з гектара. Больш высокая ўраджайнасць атрымана ў племзаводзе "Ціманава" — 12,4 цэнтнера, саўгасе "Мілаславіцкі" — 10,3, а самая нізкая — у падсобнай гаспадарцы ЛГЗ — 5, калгасе "Рабочы" — 5,2 цэнтнера з гектара.

Вострай і важнай праблемай была і застаецца ў цяперашні час праблема росту вытворчасці малака, паляпшэння яго якасці, павелічэння прадуктыўнасці дойнага статку.

Вытворчасць малака па раёну склала 16808 тон, або 95,6% да ўзроўню 1998 года. Атрыманы надой на карову 2134 кілаграмы. Варта адзначыць лепшых даярак Святлану Віктараўну Каржову з саўгаса "Мілаславіцкі", якая надаіла ад кожнай каровы па 3917 кілаграмаў малака, Валянціну Леанідаўну Камісараву і Галіну Уладзіміраўну Шаўцову з племзавода "Ціманава", якія надаілі адпаведна 3457 і 3327 кілаграмаў ад кожнай каровы.

План продажу малака дзяржаве выканалі толькі калгасы "Герой працы", імя Янкі Купалы і птушкафабрыка.

Знізілася вытворчасць мяса па гаспадарках раёна. Недаатрымана 431 тона або 11,3% да ўзроўню папярэдняга года. Сярэднясутачныя прывагі буйной рагатай жывёлы ўзраслі толькі ў саўгасах "Малышкавічы", "Макеевічы", падсобнай гаспадарцы ЛГЗ і склалі адпаведна 520, 417 і 473 грамы.

Нельга не сказаць добрых слоў аб рабоце жывёлаводаў комплекса па адкорму буйной рагатай жывёлы падсобнай гаспадаркі ЛГЗ (начальнік Наталля Аляксееўна Братусева), дзе за 1999 год атрымана сярэднясутачная прывага жывёлы 645 грамаў. З планам продажу дзяржаве мяса справіліся толькі саўгасы "Высакоўскі", "Малышкавічы" і птушкафабрыка.

Сёння мы сабраліся, каб падвесці таксама вынікі веснавой сяўбы 2000 года. Добра правялі пасяўную пры захаванні ўсіх агратэхнічных патрабаванняў калектывы саўгаса "Мілаславіцкі" (дырэктар В. М. Судзілоўскі), калгаса "Сасноўка" (старшыня В. Р. Закардонскі), племзавода "Ціманава" (дырэктар А. А. Валадковіч). Далейшай задачай працаўнікоў сяла з'яўляецца вырошчванне і ўборка ўраджаю. Толькі мы самі можам палепшыць становішча спраў у раёне.

**УКЛАД У ЖЫЛЛЁ — БОЛЬШ 996 МІЛЬЯРДАЎ РУБЛЁЎ!**

Рэалізацыя задач, звязаных з развіццём эканомікі ў многім залежыць ад работы будаўнікоў. У мінулым годзе будаўнічы комплекс спрацаваў з поўнай нагрузкай. У раёне працуе 7 будаўнічых арганізацый. У жыллёвае будаўніцтва ўкладзена 996,1 мільярда рублёў, што дало магчымасць увесці ў эксплуатацыю 12521,5 квадратных метраў агульнай плошчы жылля, або 100,9%.

Пабудавана ў раёне 161 кватэра, у тым ліку 70-кватэрны дом ЖБК, 45 кватэр у сельскай мясцовасці. Акрамя таго, у г. Клімавічы працягваецца будаўніцтва сярэдняй школы № 3 на 1251 навучэнца.

Дарожнымі будаўнічымі арганізацыямі ўведзена дарог працягласцю 60 кіламетраў. Капітальна адрамантавана і праведзена добраўпарадкаванне і бягучы рамонт вуліц на суму 273,4 мільярда рублёў у дзеючых цэнах.

**ГАЗІФІЦЫРУЮЦЦА ВУЛІЦЫ ГОРАДА**

У раёне вядзецца газіфікацыя жылога фонда і прамысловых прадпрыемстваў. У даны момант прыродны газ пададзены ў пас. Ціманава і газіфіцыравана больш тысячы кватэр. У стадыі завяршэння пуска-наладачныя работы па пераводу на спальванне прыроднага газу кацельнай аўтапарка № 9. Распрацоўваецца праектна-каштарысная дакументацыя па газіфікацыі практычна ўсіх прамысловых прадпрыемстваў. Кацельная лікёра-гарэлачнага завода ўжо зараз працуе на прыродным газе.

Акрамя таго, у раёне праводзіцца будаўніцтва газавых сетак. Да канца года будуць пераведзены на прыродны газ кватэры па завулку 50 год СССР, раёна камбіната будматэрыялаў і вуліцы Кірава.

Для выканання ўсяго намечанага кіраўнікам будаўнічых арганізацый неабходна наладзіць дакладную, без збояў, работу сваіх калектываў. З боку выканкама ім будзе аказвацца дапамога і наладжаны самы строгі кантроль за работай будаўнічага комплексу.

Станоўчы вопыт работы ёсць у нашых будаўнікоў. Ёсць людзі, якія з вялікім пачуццём адказнасці адносяцца да сваіх працоўных абавязкаў, з гонарам выконваюць даручаную работу. Гэта вадзіцель ДРБУ-172 Леанід Уладзіміравіч Баяраў, брыгадзір брыгады цесляроў ПМК-256 Вадзім Васільевіч Дарма, муляр БМУ-5 Міхаіл Міхайлавіч Кушчанка, брыгадзір брыгады мантажнікаў Клімавіцкай ПМК "Сельспецмантаж" Васіль Васільевіч Блахін, машыніст пагрузчыка ДБПМК-9 Уладзімір Іванавіч Шлынаў.

**РВА ЖКГ ПРАЦУЕ ДЛЯ ВАС**

Адной з буйнейшых арганізацый у раёне з'яўляецца вытворчае аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі, ад работы якога ў значнай ступені залежыць уладкаванасць быту насельніцтва нашага раёна. Неабходна адзначыць, што ў апошнія гады намецілася стабілізацыя работы камунальнай службы раёна, палепшылася працоўная і выканаўчая дысцыпліна. Шмат сіл прыкладаецца для навядзення належнага парадку на вуліцах горада, яго добраўпарадкавання і азелянення.

Аднак у рабоце аб'яднання ёсць яшчэ пэўныя цяжкасці і нявырашаныя пытанні. Гэта забеспячэнне насельніцтва раёна цяплом, пітной вадой, пагашэнне запазычанасці па выплаце заработнай платы. Вырашэнне гэтых пытанняў знаходзіцца на пастаянным кантролі ў выканкаме і адміністрацыі арганізацыі.

Разам з тым, сёння хочацца адзначыць лепшых работнікаў выт-

**(Працяг на 3-й стар.).**

## *Фотарэпартаж з месца падзеі*



*Некалькі разоў выклікалася на імправізаваную сцэну на стадыёне дырэктар саўгаса "Макеевічы" М. І. Глушакова. Бо гэтая гаспадарка — адна з лепшых у раёне. Некалькі разоў заахвочвалася. На гэты раз ёй уручае Ганаровую грамату аблвыканкама начальнік абласнога ўпраўлення культуры М. Р. Дарашкоў.*



*Вынікова працуе з году ў год калектыў ДРБУ-172. Трэці прызёр раённага спаборніцтва сярод будаўнічых арганізацый. Яго начальніку У. Р. Левіту ўручаецца ўзнагарода.*



*Заслужаныя ўзнагароды, якіх удастоены калектыў ДБПМК-9 у раённым спаборніцтве, як адзін з пераможцаў, атрымлівае яго начальнік М. Н. Далгун.*



*Гутараць удзельнікі нарады перадавікоў: дырэктар хлебазавода М. П. Алёшчанка, старшыня калгаса "Герой працы" А. К. Баўкуновіч і старшыня калгаса "Чырвоны сцяг" М. У. Школьнікаў. Яны таксама былі ўзнагароджаны.*

## Фотарэпартаж з месца падзеі



*Першае і другое месца падзяліў у раённым спаборніцтве сярод будаўнічых арганізацый калектыў МПМК-256, начальніку якога У. П. Нікіфараву старшыня райвыканкама У. В. Канавалаў цёпла ўручае Ганаровую грамату і грашовую прэмію.*



*У той святочны дзень мелася магчымасць і шчыра пагутарыць на ўлонні прыроды ва ўдзельнікаў мерапрыемства. Размову вядуць загадчыца аддзела сацыяльнай абароны райвыканкама З. В. Грашчанка, дырэктар саўгаса "Звянчацкі" І. Л. Далькоў, дырэктар сельгастэхнікума Я. А. Барысевіч і старшыня Лазовіцкага сельскага Савета І. Я. Казлоў.*



*Як жа не заахвоціць гаспадара мерапрыемства, дырэктара сельгастэхнікума Я. А. Барысевіча, дзе справы ідуць паспяхова. Ён адзначаны прэміяй за дасягнутыя поспехі ў абласным спаборніцтве ў сферы сацыяльна-культурнага развіцця. Гэты калектыў узнагароджаны і як пераможца сярод навучальных устаноў за лепшую пастаноўку спартыўна-масавай і аздараўленчай работы.*



*Акрамя асабістай прэміі дырэктар РВА ЖКГ Г. В. Ляпуноў атрымаў з рук старшыні райвыканкама У. В. Канавалава і некалькі Ганаровых грамат і грашовых прэмій, якімі адзначаны працоўны калектыў.*

Падрыхтаваў І. ЛАПО. Фота В. АСМАЛОЎСКАГА.

# Каб кожная галіна выніковай была

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).

ворчага аб'яднання, якія добра адносяцца да выканання сваіх працоўных абавязкаў. Гэта Сяргей Ягоравіч Бадзяка, Віктар Аляксандравіч Дзенісенка, Аляксандр Мікалаевіч Клыпчанка, Жан Пятровіч Судзілоўскі.

**АХОВА ЗДАРОЎЯ — СПРАВЫ ПАЛЯПШАЮЦЦА**

Немагчыма ўявіць сабе нармальнае жыццё і работу без належнага функцыяніравання сістэмы аховы здароўя. Нягледзячы на складанасці фінансавання, летась праведзена пэўная работа па паляпшэнню матэрыяльна-тэхнічнай базы. Адрамантаваны шэраг аддзяленняў цэнтральнай раённай бальніцы (рэанімацыйнае, радзільнае, інфекцыйнае, траўматалагічнае), ажыццёўлены касметычны рамонт Галіцкай бальніцы, завершана рэканструкцыя былога будынка Вялікамохскай амбулаторыі для Дома ветэранаў.

Многае ўжо зроблена па рамонту ў 2000 годзе дзякуючы фінансавай падтрымцы кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый раёна. Сёння хочацца выказаць словы падзякі працоўным калектывам хлебазавода (дырэктар М. П. Алёшчанка), Клімавіцкіх электрасетак (начальнік У. У. Панасенка), ААТ "Клімавіцкі малочны завод" (дырэктар А. А. Кісялёў) і іншым.

З-за недахопу фінансавання былі перабоі ў забеспячэнні лячэбна-прафілактычных устаноў медыкаментамі, шпрыцамі, перавязачным матэрыялам. Але, нягледзячы на гэта, у 1999 годзе ўдалося вышукаць сродкі на набыццё медыцынскага абсталявання. Сёлета за сродкі раённага бюджэту набыта адна новая стаматалагічная ўстаноўка. Пералічаны грошы яшчэ на дзве.

У 1999 годзе набыта адна новая машына для аддзялення хуткай медыцынскай дапамогі. Аднак транспартная праблема ў сістэме аховы здароўя ў раёне не знята.

Па-ранейшаму вельмі востра стаіць пытанне кадраў. Працэнт забяспечанасці ўрачамі не перавышае лічбу 60. Цэнтральная раённая бальніца ўкамплектавана ўрачамі толькі па сумяшчальніцтву. Не складаюць выключэння і лячэбна-прафілактычныя ўстановы вёскі: 20% фельчарска-акушэрскіх пунктаў укамплектаваны кадрамі таксама дзякуючы сумяшчальніцтву.

І ўсё ж, нягледзячы на цяжкасці, медыцынскія работнікі з гонарам выконваюць свой абавязак.

За прайшоўшы год палепшыўся шэраг паказчыкаў дзейнасці аховы здароўя раёна. Знізілася дзіцячая смяротнасць, пасляаперацыйная лятальнасць, інфекцыйная захворваемасць.

Сардэчных слоў падзякі заслугоўваюць урач-ардынатар тэрапеўтычнага аддзялення Жана Іванаўна Пракурат, участковы ўрач-тэрапеўт Надзея Сяргееўна Лук'янава, загадчыца аддзялення медыцынскай рэабілітацыі Святлана Іванаўна Сарока, галоўны ўрач Барсукоўскай сельскай урачэбнай амбулаторыі Вера Міхайлаўна Казанцава, галоўная медыцынская сястра цэнтральнай раённай бальніцы Любоў Іванаўна Лукашэвіч, старшая медыцынская сястра Раднянскай сельскай участковай бальніцы Ганна Фёдараўна Старавойтава, загадчыца Красавіцкага фельчарска-акушэрскага пункта Лідзія Данілаўна Шавяленка, якія з'яўляюцца добрымі спецыялістамі, міласэрнымі, цярплівымі, душэўнымі людзьмі.

**НАСТАЎНІК, ПАЎТАРЫ СЯБЕ Ў ВУЧНЯХ**

Работа аддзела адукацыі, педагагічных калектываў школ была накіравана на стварэнне неабходных умоў для паслядоўнага рэфармавання агульнаадукацыйнай школы, развіццё творчых здольнасцей навучэнцаў і фарміраванне цэласнай гарманічнай асобы. Выхаваўчы працэс ва ўстановах адукацыі ажыццяўляюць 635 настаўнікаў, 76% з якіх маюць вышэйшую адукацыю.

Рэфармаванне агульнаадукацыйнай і выхаваўчай сістэмы патрабуе сур'ёзнага падыходу да падбору і расстаноўкі педагагічных кадраў. У раёне дзейнічаюць 34 метадычныя аб'яднанні, дзве школы перадавога педагагічнага вопыту. Поўнасцю выконваецца план курсавой перападрыхтоўкі, выкарыстоўваюцца творчыя справаздачы, семінары, практыкумы, дні адкрытых дзвярэй.

Важнай адзнакай работы настаўніка з'яўляецца якасць ведаў вучняў. У 1998-99 навучальным годзе з залатым і сярэбраным медалямі школы закончылі 27 выпускнікоў, з іх 70% паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. У Магілёўскім і Крычаўскім ліцэях займаецца 61 вучань з нашага раёна.

Яшчэ 439 навучэнцаў закончылі мінулы год на выдатна, на 4 і 5 займалася 26 працэнтаў вучняў. Летась трое вучняў нашага раёна атрымалі заахвочвальныя прызы за ўдзел у абласных прадметных алімпіядах школьнікаў.

Падзешаўленне харчавання і паляпшэнне якасці ежы ў школах ажыццяўляецца за лік прадукцыі, сабранай з прышкольных участкаў. А гарадскія школы нарыхтоўваюць сабе агародніну на спецыяльна выдзеленым для іх участку ў АГП "Асмолавічы". Пэўную дапамогу ў арганізацыі харчавання школам аказваюць базавыя гаспадаркі, выдзяляючы малочныя і мясныя прадукты.

**З КЛОПАТАМ ПРА ДЗЯЦЕЙ**

Значная ўвага аддзелам адукацыі адводзіцца рабоце па развіццю творчых здольнасцяў дзяцей. Распрацавана раённая праграма "Адораныя дзеці". Выконваючы праграму, праведзены злёт выдатнікаў вучобы. У канцы мінулага года выканкамам зацверджана палажэнне аб выплаце стыпендый навучэнцам 9—11 класаў, якія займаюцца на "выдатна".

Аддзелам адукацыі вядзецца пэўная работа па паляпшэнню матэрыяльнай базы школ і дзіцячых дашкольных устаноў. У падрыхтоўцы школ і дашкольных устаноў да новага навучальнага года аказваюць дапамогу базавыя прадпрыемствы і гаспадаркі раёна. Летась агульная сума дапамогі склала 1,6 мільярда рублёў.

На бягучы і капітальны рамонт школ у 1999 годзе было затрачана 28 мільярдаў рублёў. Аднак гэтых сродкаў недастаткова. Патрабуецца капітальны рамонт многіх школ і дашкольных устаноў. Неабходна набыць камп'ютэрныя класы хаця б ва ўсе сярэднія школы.

Сёння хочацца адзначыць педагагічныя калектывы, якія дабіліся добрых вынікаў выканання пастаўленых перад імі задач. Сярод іх калектывы СШ № 2, СШ № 1, СШ № 3 горада, Ціманаўскай, Звянчацкай, Паўлавіцкай, дзіцячых садоў "Рамонак", "Бярозка", "Церамок", вёсак Ціманава, Звянчатка і іншыя.

**КУЛЬТУРА ФАРМІРУЕ ЧАЛАВЕКА**

Важнейшай задачай культуры было і застаецца фарміраванне агульначалавечых каштоўнасцей, здаровага ладу жыцця, актыўнай жыццёвай пазіцыі, высокіх маральных ідэалаў. Традыцыйнымі сталі ў горадзе і на вёсцы святы народнага календара, сучасныя маладзёжныя конкурсна-забаўляльныя праграмы, садзейнічаючыя прыцягненню ўсё большай колькасці жыхароў раёна да арганізаванага змястоўнага адпачынку.

Ва ўстановах культуры раёна працуе 187 гурткоў мастацкай самадзейнасці, 61 аматарскае аб'яднанне, у якіх займаецца звыш 2 тысяч чалавек.

Славіцца клімавіцкая зямля сваімі талентамі. Аркестру народных інструментаў, харавому калектыву раённага цэнтра культуры і сельгастэхнікума, фальклорна-этнаграфічнаму ансамблю Стара-Дзедзінскага сельскага клуба прысвоена ганаровае званне "Народны".

Пацвярджэннем высокага майстэрства ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці стала тое, што ў бягучым годзе прысвоена ганаровае званне "Народны" хору ветэранаў вайны і працы раённага цэнтра культуры, вакальнаму ансамблю Ціманаўскага сельскага Дома культуры.

Творча, нестандартна падыходзяць да сваёй работы загадчыца Кісялёва-Будскага сельскага клуба Галіна Уладзіміраўна Саўчанка, мастацкі кіраўнік Раднянскага сельскага Дома культуры Любоў Мікалаеўна Жураўлевіч, загадчыца Малышкавіцкага сельскага клуба Ганна Рыгораўна Падабед, мастацкі кіраўнік раённага цэнтра культуры Святлана Аляксееўна Лінннік і многія іншыя.

За ўдзел у абласным аглядзе-конкурсе на лепшую пастаноўку работ бібліятэк па экалагічнаму выхаванню і інфармаванню насельніцтва цэнтральная бібліятэка ўзнагароджана Дыпломам упраўлення культуры аблвыканкама.

Бібліятэкары, разумныя, добрыя, інтэлігентныя, прыгожыя людзі, робяць сваю вялікую справу. Гэта Валянціна Віктараўна Буракова, Ганна Іванаўна Рубан, Святлана Пракоф'еўна Уланава, Анісся Пятроўна Варабей і іншыя.

**ЁСЦЬ І Ў НАС ПРЭЗІДЭНЦКІЯ СТЫПЕНДЫЯТЫ**

Вялікі ўклад у эстэтычнае выхаванне і адукацыю дзяцей уносяць музычная і мастацкая школы, у якіх займаецца больш 400 дзяцей. Летась ансамбль "Калініца" дзіцячай музычнай школы (мастацкі кіраўнік Наталля Яўгенаўна Казырэнка) стаў пераможцам Рэспубліканскага агляду-конкурсу "Усе мы родам з дзяцінства". У маі гэтага года прадстаўляў наш раён у сталіцы рэспублікі горадзе Мінску.

Вучні дзіцячай мастацкай школы ўдзельнічаюць і з'яўляюцца дыпламантамі многіх міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў. Лепшыя работы дзяцей з мастацкай школы экспаніраваліся ў Канадзе, ЗША, Германіі, Чэхаславакіі, Японіі, Ізраілі.

У 1999 годзе праводзілася сусветная выстаўка дзіцячага малюнку "Мінск — Тайвань". Работы Олі Выдзерка, Дзімы Панцялеева адзначаны і ў цяперашні час экспануюцца ў Японіі. Інга Белаштэнтава ўзнагароджана Дыпломам і спецыяльным прызам і занесена ў сістэму "Інтэрнэт" за ўдзел у міжнародным конкурсе "Фарбы зямлі".

Дыпламантамі рэспубліканскай выстаўкі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва сталі Андрэй Маісеенка, Оля Шчарбакова, Оля Саўчанка, Андрэй Застрэлаў, Дзіма Мацвееў і ім прысуджана стыпендыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі ў галіне мастацтва і культуры.

Найбольш складанай застаецца праблема ўмацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы ўстаноў культуры. Шэраг сельскіх клубаў, бібліятэк патрабуюць капітальнага рамонту. Многія з іх не маюць неабходнага абсталявання, сцэнічных касцюмаў, музычных інструментаў.

**СПОРТ — ГЭТА ЗДАРОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ**

Некалькі слоў хачу сказаць аб пастаноўцы фізкультурнай і спартыўна-масавай работы ў раёне. Раённая спартыўная арганізацыя аб'ядноўвае 58 калектываў фізічнай культуры. У раёне працуе 69 штатных работнікаў фізічнай культуры і спорту. Традыцыйна праводзяцца раённая спартакіяда "Здароўе", дзіцячы рэспубліканскі турнір па рускіх шашках "Боль Чарнобыля", турнір па валейболу памяці Героя Савецкага Саюза С. В. Раманца і іншыя.

Вялікі ўклад у развіццё спартыўна-масавай работы раёна ўносяць Віктар Венедзіктавіч Шапараў, Сяргей Мікалаевіч Яноўскі, Мікалай Пятровіч Чумасаў, Васіль Яўсеевіч Сафранкоў.

У 1999 годзе актыўны ўдзел у раённых спаборніцтвах прымалі працоўныя калектывы РВА ЖКГ, лікёра-гарэлачнага завода, камбіната хлебапрадуктаў, калгасаў "Сасноўка", "Галіцкі", племзавода "Ціманава", а таксама аддзелаў унутраных спраў і адукацыі райвыканкама.

Паважаныя таварышы! Дазвольце мне ад імя раённага выканаўчага камітэта і ад сябе асабіста выказаць словы шчырай падзякі і прызнанасці за вашу ствральную працу, якой вы ўнеслі вялікі ўклад у развіццё народна-гаспадарчага комплексу раёна, дабіліся пэўных поспехаў у іншых галінах працоўнай дзейнасці. Я ўпэўнены, што вы прыкладзеце ўсе намаганні, каб наш раён быў прыгажэй, багацей усіх.

Жадаю вам, вашым родным і блізкім моцнага здароўя, дабрабыту, міру і дабра, сямейнай утульнасці і цяпла, новых працоўных поспехаў!

## Віншуем!

**Артема Владимировича ОСМОЛОВСКОГО с днем рождения!**

Дорогой Артемка! Прими от нас самые теплые, самые нежные поздравления и пожелания в твой восьмой День рождения! Будь умницей, веселым, жизнерадостным, послушным мальчиком. Хороших тебе и преданных друзей, успехов в школьных делах. Пусть этот день — не праздник шумный, не красное число в календаре, но в этот день под солнцем ясным ты появился на Земле. Тебя сердечно поздравляем с таким чудесным летним днем и от души желаем здоровья, счастья, радости во всем!

**Тетя Галя, дядя Витя, Степан, Инга, баба Нюра, Вова.**

## Будзем разам!

Паважаныя чытачы!

Пачалася падпіска на "Родную ніву" на другое паўгоддзе 2000 года. Афарміць падпіску можна ў кожным аддзяленні паштовай сувязі.

**Кошт індывідуальнай падпіскі**

на адзін месяц — 324 рублі,

на квартал — 972 рублі

і на паўгоддзе — 1944 рублі.

**Кошт ведамаснай падпіскі**

на месяц — 410 рублёў,

на квартал — 1230 рублёў

і на паўгоддзе — 2460 рублёў.

**Заставайцеся з "Роднай нівай"!**



## Трэба быць разам

Вось і скончыўся чарговы навучальны год. Рабят чакаюць новыя знаёмствы і сустрэчы. Моладзь пачала здаваць выпускныя экзамены, каб потым трапіць у тэхнікумы і ВНУ краіны. Наш карэспандэнт сустрэўся з выконваючым абавязкі першага сакратара раённага камітэта ГА БПСМ **Сяргеем Быкавым**, каб задаць яму некалькі пытанняў.

**— З заканчэннем навучальнага года можна падвесці вынікі работы. Якія яны?**

— Аптымістычныя. Колькасць раённай арганізацыі ГА БПСМ паступова павялічваецца. Нас ужо болей за 800 чалавек. Прыемна парадавалі пярвічныя арганізацыі Барсукоўскай, трэцяй гарадской школ. Традыцыйна на высокім узроўні пастаўлена работа ў пярвічнай арганізацыі першай гарадской школы. Вялікую дапамогу маладым людзям аказвае намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Алёна Мінчанка. У школе працуе "Амад". Рабяты наладзілі турыстычныя паездкі і экскурсіі па гарадах Беларусі. Прыемна здзівілі нас рабяты з Галіцкай школы, заняўшыя першае месца ў раённай гульні КВЗ.

**— Дарэчы, пачаўся летні адпачынак. І што тут можна прапанаваць нашым чытачам?**

— Калі ласка, маладзёжны цэнтр "Юнацтва" прапануе адпачынак як у краіне, так і за яе межамі. У нас наладжана супрацоўніцтва, і калі ёсць жаданне, заходзьце да нас, або званіце. Мы дапаможам.

**— Зноў паразмаўляем пра вашы дасягненні. Хто тут у вас лепшы?**

— Як я і казаў, першая школа, тэхнікум, дзе самая вялікая пярвічная арганізацыя, ПТВ. На вёсцы хочацца адзначыць тых, хто ўдала працуе і перамагае ў разнастайных спаборніцтвах. Апошні раз вызначыліся Сяргей Падабед з саўгаса "Малышкавічы", Аляксандр Кубышка з падсобнай гаспадаркі ЛГЗ, Сяргей Волкаў з калгаса "Новае жыццё". Маладыя механізатары сталі пераможцамі ў раённым спаборніцтве сярод працаўнікоў вёскі, занятых на падрыхтоўцы глебы да сяўбы і самой сяўбе.

Плануецца ў нас і ўзнаўленне будаўнічых атрадаў. Тым больш, што жадаючых папрацаваць у летні перыяд, каб заробіць грошы, у раёне хапае. Гэта навучэнцы тэхнікума, ПТВ.

Спраў многа. Жыццё ў нас цікавае, далучайцеся, калі ласка.

**Гутарыў Н.МІНЧАНКА.**

● Чалавек сярод людзей

## Калі бацькоў саслалі ў Сібір, сённяшняму пенсіянеру Уладзіміру Іванавічу Хомчанку было каля чатырох гадоў

Нагрубілі Уладзіміру Іванавічу, вось і прыйшоў ён у рэдакцыю. За маральнай падтрымкай, за дапамогай. Хаця, як сам прызнаўся, ніколі да гэтага не хадзіў скардзіцца.

Калі ў час масавых рэпрэсій бацькоў яго раскулачылі (чытай, адабралі ўсё нажытае сваёй жа працай), хлопчыку было каля чатырох гадоў.

— Тады, калі ў каго былі блізкія родзічы, дзяцей дазвалялі адпусціць. Вось і мяне прывезлі да цёткі. Яна і пачала выхоўваць, расціць. З малых год я стаў працаваць: і снапы вязаў, і скародзіў. Потым даглядаў свіней, цялят. Праз некаторы час трапляем над акупацыю немецкую. Многа перажылі. У свой час працаваў у калгасе "Перамога" (так калісьці называўся будучы калгас "Клімавіцкі"). І пасля арміі туды ж вярнуўся. Маю больш дваццаці год калгаснага стажу. Увесь час жыву ў Свірэлі. 17 год у магазіне тутэйшым гандляваў.

Бацька мой у 1942 годзе загінуў на фронце, маці памерла тут. У 1941 годзе толькі яе і ўбачыў. У цёткі, Алены Максімаўны, у самой было трое дзетак на руках.

Цяпер вось жывём з жонкай Кацярынай Аляксееўнай больш чым 50 гадоў. Яна таксама ў калгасе працавала. Я —інвалід другой групы. Маем чацвярых дзяцей. Старэйшая дочка працуе на заводзе пад Санкт-Пецярбургам, другая — у ПМК-256, сын — на Украіне, у Макееўцы, і яшчэ адзін сын — на нашым малаказаводзе.

Колькі жывём, мы кароўку заўсёды трымаем. Здалі восенню цяляці, малако здаем і будзем здаваць.

У рэшце рэшт з пытаннем У.І.Хомчанкі разабраліся, каму належыць, і будзем лічыць гэтую сітуацыю выпадковай. Але ж колькі яшчэ навокал нас хамства, чэрствасці і валакіты.

**М.МАЙСКІ.**



## ТАК ТРЫМАЦЬ!

Не так даўно ў Магілёўскім раёне прайшла чарговая абласная ваенна-спартыўная гульня "Зарніца".

Наш раён у спаборніцтве прадстаўляла каманда вучняў з Барсукоўскай сярэдняй школы (прадстаўнік — настаўнік школы Ігар Старадуб). Нашы юнакі і дзяўчаты былі першымі ў спартыўна-турыстычнай эстафеце, другімі ў конкурсе "Баявы лісток" і трэцімі — у віктарыне "Скажы СНІДу — не!" Гэта дазволіла вучням з Барсукоўскай школы заняць у гульні другое агульнакаманднае месца.

Віншуем рабят з удалым выступленнем у абласных спаборніцтвах.

**Н. ВОЛЬНЫ.**



Лічбы — рэч упартая

## Колькі нас, якія мы?

Клімавіцкі раённы аддзел статыстыкі з'яўляецца структурным падраздзяленнем Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь. Яго прызначэнне — збор і аналіз інфармацыі, зыходзячай ад гаспадарчых суб'ектаў усіх форм уласнасці, прыватных прадпрымальнікаў, фермераў. Плюс да ўсяго правядзенне перапісаў насельніцтва — важнейшай дзяржаўнай кампаніі.

Працуе ў аддзеле статыстыкі дзесяць чалавек. З лютага 2000 года начальнікам тут — **Аляксандр Міхайлавіч МАРФЕЛЬ**, у свой час скончыўшы эканамічны факультэт БСГА і шмат год аддаўшы практычнай рабоце па спецыяльнасці.

**— Аляксандр Міхайлавіч, лічбы, кажуць, рэч упартая. Тым не менш яны бываюць і вельмі падатлівымі...**

— Я не раіў бы абыходзіцца з імі надта вольна. Нагадаю, што існуе Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь N 22 "Аб некаторых мерах па недапушчэнню скажэнняў дадзеных дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці". Ім, у прыватнасці, прадугледжана, што прадастаўленне скажоных дадзеных, несвоечасовае прадастаўленне або ўхіленне ад справаздачнасці, калі ў гэтых дзеяннях няма саставу злачынства, цягне за сабой штраф у памеры ад 50 да 100 мінімальных зарплат.

Дапусціў хтосьці падобнае на працягу года — і ён можа быць падвергнуты штрафу ў памеры ад 150 да 300 мінімальных зарплат. Нарэшце, калі прадастаўленне скажоных дадзеных прычыніла буйныя страты або нанесла шкоду законным правам грамадзян — такія дзеянні цягнуць за сабой крымінальную адказнасць.

Акрамя Дэкрэта мы ў сваёй практычнай рабоце карыстаемся Законам рэспублікі аб Камітэце Дзяржаўнага кантролю.

Па стану на 16 лютага 1999 г., як сведчыць перапіс насельніцтва, у нашым раёне пражывалі 34,1 тысячы чалавек. У 1959 г. гэта лічба складала 50,1 тысячы чалавек.

**— Статыстыка — гэта перш за ўсё жывыя людзі. Што ўяўляе сабой ваш калектыў?**

— Калектыў жаночы. Людзі стараюцца. Большым вопытам валодаюць сярод іншых эканамісты Любоў Сяргееўна Каспіна, Тацяна Міхайлаўна Іванова.

Што тычыцца перапісу, то сабраныя дадзеныя вельмі наглядна ілюструюць галоўныя сацыяльна-дэмаграфічныя характарыстыкі. Напрыклад, у Клімавіцкім раёне на вышэйназваную дату пражывалі 16145 мужчын і 17942 жанчыны. Гарадское насельніцтва складала 17,1 тысячы, сельскае —17 тысяч чалавек.

Клімаўшчына сёння з'яўляецца месцам пражывання прадстаўнікоў 31 нацыянальнасці. Сярод іх: 31193 беларусы, 2201 рускі, 427 украінцаў, 29 палякаў, 55 яўрэяў, 1 кіргіз, 2 карэлы, 1 інгуш, 1 чачэнец, 1 балгарын, 23 азербайджанцы, 20 цыган, 1 даргінец, 24 латышы, літоўцы і эстонцы, 9 грузінаў, 2 фіны, 2 карэйцы, 10 немцаў і іншыя.

**— Цікава, ці былі на час правядзення перапісу доўгажыхары?**

— Ва ўзросце 99 год зарэгістраваны 1 чалавек, старэй 100 год — 3, ва ўзросце ад 95 да 99 год — 18 чалавек. Маецца і іншая інфармацыя — аб узроўні адукаванасці насельніцтва, колькасці працаздольных. Дарэчы, адзначаны ўсяго адзін пісьменны жыхар.

Увогуле ж без лічбаў наша жыццё не ўявіць. Яны прымушаюць думаць, рабіць вывады, ісці наперад.

**Гутарыў М.ГЛУЗДОЎ.**

## Госці медвыцвярэзніка

**(з 3 да 5 чэрвеня)**

Галубенка Аляксандр Р., 1958 г.н., вул. Мюд, 49, не працуе;

Мазураў Васіль Ул., 1965 г.н., вул. Камуністычная, 17/68, вадзіцель ПМК-256;

Гулевіч Ігар П., 1970 г.н., вул. Чыгуначная, 40/30, не працуе;

Фанабровіч Аляксандр К., 1980 г.н., вул. Я.Коласа, 1а/5, грузчык КХП;

Руцкі Уладзімір І., 1969 г.н., зав. Рэвалюцыйны, 11/3, вадзіцель "Белдзяржстраха";

Талалаеў Уладзімір В., 1978 г.н., вул. Чыгуначная, 5/1, навучэнец сельгастэхнікума;

Шапараў Віктар А., 1950 г.н., зав. Піянерскі, трактарыст "Сельгасхіміі";

Янчанка Віталь С., 1963 г.н., вул. Герцэна, 12/1, не працуе;

Давыдоў Аляксандр В., 1956 г.н., вул. Гагарына, 21, не працуе;

Мазоцкі Мікалай А., 1971 г.н., в. Ціманава, не працуе;

Бобр Ігар Л., 1982 г.н., в. Ціманава, не працуе;

Іваноў Васіль П., 1964 г.н., зав. Рэвалюцыйны, 6, не працуе;

Федарэнка Фёдар Ф., 1948 г.н., вул. Свярдлова, 75, не працуе;

Гамолка Аляксандр А., 1974 г.н., вул. Набярэжная 14/2.

## Затрыманы несуны

Раённым аддзелам аховы ў ходзе праведзеных рэйдаў па аб'ектах аграпрамыслowага комплексу з 29 па 31 мая г.г. выяўлены шэраг парушэнняў арт. 51 КоАП Рэспублікі Беларусь.

Дробны крадзёж здзейснілі два чалавекі з племзавода "Ціманава", прыхапіўшы 15 кілаграмаў буракоў. На заводзе металавырабаў свае несуны — адзін з работнікаў вынес 3 чахлы да калясак і 3 бабіны нітак.

Туцькіна С. В. была спынена ахоўнікамі з трыма кілаграмамі камбікорму.

Не дрэмлюць і пенсіянеры ў шапку. Будзінскі М.П. вёз дамоў 40 літраў брагі, па стольқі ж — Міхееў М.П. і Сяргееў В.П., 30 літраў —Собалеў М.В. Добры "апетыт" у Анціпава Я.Л. — ён украў 1000 літраў брагі. З пяццю кілаграмамі камбікорму затрыманы Фёдараў М.С.


**Галоўны рэдактар Мікола МІНЧАНКА**

**"РОДНАЯ НІВА". Заснавальнікі: Клімавіцкі раённы выканаўчы камітэт, Клімавіцкі раённы Савет дэпутатаў, працоўны калектыў рэдакцыі.**

**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах 2 разы на тыдзень —па серадах і суботах.**

**Кошт 1 экземпляра газеты — 32 рублі .**



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213600 г. Клімавічы, пл. 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, д. № 1.

ТЭЛЕФОНЫ: галоўнага рэдактара —2-11-69, намесніка рэдактара і загадчыка аддзела савецкага будаўніцтва — 2-11-60, адказнага сакратара — 2-12-63, аддзелаў сацыяльных праблем і інфармацыі, рэдактара аддзела па рэкламе і аб'явах — 2-12-65, аддзела эканомікі і бухгалтэрыі — 2-12-64, аддзела радыёінфармацыі — 2-31-58, прыёмнай рэдакцыі — 2-11-69, мясцовай друкарні — 2-31-55.





**Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы Н.Абжыгалава.**

**Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова (вул. Першамайская, 70, тэл. 25-28-05). Аб'ём — адзін друкаваны аркуш.**

**Зак. 46. Тыраж 1790 экз. Індэкс 64078. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання N 286.**

**Выдавец — аддзел па друку Магілёўскага аблвыканкама**

**Газета падпісана да друку ў 17. 00 13.06 2000 г.**